АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

9 – 15 ЛІПЕНЯ 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 30000 РУБЛЁЎ
№28 (220)

АСТРАВЕЦ

## Бензінавы голад Астраўцу не страшны



*Так сёння выглядае будучая АЗС пры ўездзе ў Астравец.*
ФОТА МАР'ЯНА ВЯНГРОЎСКАГА.

Адсутнасць бензіну на многіх аўтазаправачных станцыях краіны амаль ніякім чынам не адбілася на астравецкіх аўтааматарах. Адна з прычын – аддаленасць АЗС ад Астраўца. Самыя блізкія ёсць у Кямелішках і Ашмянах, і, каб дабрацца да іх, трэба праехаць не адзін дзесятак кіламетраў – колькі бензіну ўпустую выкідаецца на вецер.

У Астраўцы ж на сёння АЗС няма. Летась "Смаргоньнафтапрадукт" пачаў тут будаўніцтва АЗС. Калі адбудзецца свята заканчэння, адказаць цяжка. У любым выпадку, астравецкім аўтааматарам перабоі з палівам не страшныя.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

СМАРГОНЬ

## Будуць грошы – будзе зімовы час харошы

Райвыканком засведчыў, што пры падрыхтоўцы да работы ў асенне--зімовы перыяд асаблівых праблем горад не мае. З 20 жніўня, як і намячаецца, гарачая вада будзе падавацца ў кватэры цэлыя суткі (цяпер яна прысутнічае ў кранах па буднях толькі вечарамі і ўвесь дзень па выхадных).

– Былі б грошы, – лічыць дырэктар вытворчага аб'яднання жыллёва–камунальнай гаспадаркі **Браніслаў Стурліс**, – а падрыхтаваць сваю гаспадарку і ацяпляльныя сеткі да 20 жніўня мы паспеем.

Ідзе назапашванне брыкету (штодня па 60 тон), каменнага вугалю. Райпалівазбыту дадаткова выдзелена яшчэ 3,5 тысячы кубаметраў дроў, але даставіць іх трэба будзе з лесу самім.

Гарадскія кацельні працуюць на прыродным газе, аднак ствараецца рэзерв мазуту, якога ёсць ужо 500 тон.

*Павел МАКЛЮК.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Сцэна лопнула

На свяце "Купалле", што прайшло з аўторка на сераду на беразе Ушы, выступаў народны ансамбль песні і танца "Спадчына". Падчас выступлення лопнула сцэна, і драўляная яе сярэдзіна пачала моцна вібрыраваць.

Але гэта не напалохала музыкантаў.

– Мы даўно звыклыя з нестандартнымі сітуацыямі, – гаворыць яны.

Тэхнічная недарэчнасць не пашкодзіла святу.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

## Стопрацэнтныя студэнты?

34 выпускнікі гімназіі №4 атрымалі сёлета залатыя і сярэбраныя медалі.

Іх настаўнікі і бацькі, а таксама ўлады раёна чакаюць, што і сёлета яны пацвердзяць моцныя веды на ўступных экзаменах у вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі, бо летась усе медалісты без выключэння паступілі на вучобу ў ВНУ. І колькасць іх была нават большая.

*Павел МАКЛЮК.*

АСТРАВЕЦ

## Астраўчане любяць мёд



Амаль чатыры тоны мёду за непрацяглы час вырабілі ў мясцовым камбінаце грамадскага харчавання. Прадукт карыстаецца попытам, бо на паліцах магазінаў доўга не залежваецца.

Дырэктар аб'яднання грамадскага харчавання **Галіна Андралойць** гаворыць, што ёсць планы, каб рэалізоўваць мёд у суседніх Ашмянах і Смаргоні.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ФОТАРЭПАРТАЖ

## 90 віляйчанаў у ліпені стануць салдатамі


*Прызыўная класіка.*


*Райваенком Генадзь Лісоўскі, аказваецца, зусім не строгі, як гаварылі прызыўнікам.*
ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

*ВІЛЕЙКА. На гэтыя выхадныя не адзін кабанчык будзе заколаты, не адна фляга гарэлкі выцягнутая са склепа. Горад і раён гуляюць. 15 ліпеня пройдзе найбольш масавая адпраўка прызыўнікоў у армію. Абітурыентаў—няўдачнікаў боты чакаюць 28—30 ліпеня.*

Так, у два этапы, вілейскія хлопцы стануць салдатамі. Служыць ім давядзецца недалёка ад дома: у Маладзечне, Смаргоні, Раўбічах, Барысаве, Фаніпалі. Днямі ў гарадскім доме культуры прайшоў Дзень прызыўніка.

Ваенны камісар **Генадзь Лісоўскі** павіншаваў хлопцаў:

– Вам вельмі пашчасціла. Вы змаглі перамагчы прызыўную камісію, медыкаў, якія накіроўвалі вас па розных бальніцах. Вы прабіліся ў армію.

У армію «прабіліся» не ўсе. 46 прызыўнікоў часова не годныя да службы па стане здароўя. На пытанне: "Ці ёсць прамыя "отказники"?" – супрацоўнік ваенкамата маёр **Уладзімір Піваварaў** адказаў адмоўна.

Цяперашнія прызывы праходзяць у абмежаваныя роды войскаў: пагранічнікі, сувязь, супрацьпаветраную абарону, Міністэрства ўнутраных спраў. Прызыўнікоў жа, найперш, хвалюе наяўнасць "дзедаўшчыны" у войсках, а не кім служыць і дзе.

Старшыня гарсавета **Яўген Ігнатовіч** традыцыйна параіў дзяўчатам, якіх даволі шмат было ў зале:

– Пішыце пісьмы сваім каханым. Падтрымлівайце іх.

Не абышлося без слоў–заклікаў:

– Прызыўнікі, вы павінны сваёй службай славіць геройскую вілейскую зямлю.

Ніводная маці прызыўнікоў на ўрачыстае ўручэнне павестак не прыйшла.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*




Запрашаем вас на рэгіянальны фестываль–конкурс выканаўцаў эстраднай песні **"Адна зямля"**, які пройдзе 10 ліпеня 1999 года на стадыёне пасёлка Чысць.

### Праграма

| | |
|---|---|
| 15.00 | *Святочнае адкрыццё фестывалю* |
| 15.20 | *Конкурс выканаўцаў эстраднай песні малодшай узроставай групы* |
| 17.00 | *Міні–канцэртансамбляцыганскай песні "Джана Рома" Ашмянскага раёна.* |
| 17.30 | *Конкурс выканаўцаў эстраднай песні старэйшай узроставай групы* |
| 19.00 | *Канцэртная праграма эстраднай студыі "КВІН" Урэцкага ГПДК Любанскага раёна* |
| 20.00 | *Заключны гала–канцэрт рэгіянальнага фестывалю–конкурсу выканаўцаў эстраднай песні "Адна зямля" з удзелам эстрадных выканаўцаў, пераможцаў конкурсу.* |

*У фестывалі бяруць удзел эстрадныя выканаўцы Маладзечанскага, Валожынскага, Ашмянскага раёнаў, госці з Мядзельскага і Каломенскага (Расія) раёнаў, а таксама эстрадна–танцавальны калектыў г. Мінка і маладзёжны шоу–балет "Влада" г. Слуцка.*

*Вас чакаюць добры настрой і феерверкі ў вячэрнім чысцінскім небе.*

Аргкамітэт.

ЛЕТА

## З 11 тапельцаў трох маглі б выратаваць

МАЛАДЗЕЧНА. Ад пачатку мая ўтапілася пяцёра гараджан і і шасцёра вяскоўцаў. Трох маглі б выратаваць. Напрыклад, школьніка і 25–гадовага хлопца выцягнулі з вады літаральна праз пару хвілін, як яны пайшлі на дно. Аднак ніхто не ведаў, як ахвяраў прывесці ў прытомнасць. У школе пры выкладанні прадмета "Спецпадрыхтоўка" настаўнікі расказваюць, як абараніцца ад ядзернага выбуху. А вось як дапамагчы тапельцам, не кожны з іх і ведае.

– Самыя небяспечныя месцы – гэта кар'еры ў Мароськах, Ізабеліне, сажалкі ў Крыніцы, Насілаве, рака Вілія, – папярэджвае старшыня маладзечанскага гаррайсавета Таварыства выратавання на водах Віталь Чарнушэвіч, – калі летась тапіліся, у асноўным, на буйных вадаёмах, то цяпер наадварот.

*Працяг тэмы на 2–й стар.*


*Хапае добраахвотных памочнікаў у работнікаў вілейскай выратавальнай станцыі. Своечасова заўважыць тапельца, звычайна, і азначае — выратаваць яго.*
ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

